№ 103 (1916)
Серада, 9 чэрвеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +13...+15, сонечна, уначы — +3...+6, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +16...+18, сонечна, уначы — +6...+8, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +16...+18, сонечна, уначы — +4...+6, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +10...+12, уначы — +4...+6, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +11...+13, уначы — +7...+9, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +11...+13, уначы — +4...+6, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



СІТУАЦЫЯ

## Вучоных будуць пазбаўляць званняў?

### Лукашэнка незадаволены вынікамі іх працы

У чарговы раз папрокі ў адрас вучоных А.Лукашэнка выказаў на ўрачыстай цырымоніі ўручэння дыпломаў членам-карэспандэнтам Нацыянальнай акадэміі навук.

Па яго словах, кожны год кандыдаты і дактары навук, акадэмікі, члены-карэспандэнты будуць абавязаны пацвярджаць свой высокі статус. *"Аж да таго, што мы паставім пытанне аб пазбаўленні адпаведных званняў,* — падкрэсліў А.Лукашэнка. — *Ці проста "отцепим" вас: жывіце, зарабляйце, як жадаеце. Мы самым сур'ёзным чынам над гэтым падумаем".*

Лукашэнка зазначыў, што беларускія вучоныя атрымліваюць даплаты з дзяржаўнага бюджэту. *"Зыходзячы з гэтага патрабаванні да акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў за іх працу з гэтага года будуць больш жорсткія,* — заявіў кіраўнік дзяржавы. — *Перш за ўсё з боку дзяржавы і з боку прэзідэнта, які непасрэдна курыруе навуковую сферу. Я не жадаю, каб вас папракалі: хлебную картку атрымаў, цяпер можна адпачываць".*

Акадэмік Радзім Гарэцкі кажа, што падобныя выказванні Лукашэнкі асабіста яго абразілі, але не здзівілі. Праўда, вучоны не разумее, як можна пазбавіць высокага звання.

— Акадэмікаў называюць бессмяротнымі, гэта званне даецца на ўсё жыццё, — удакладняе Радзім Гаўрылавіч. — І ў нас, і ў Расіі, і ў Францыі, і ў іншых краінах. Так было заўсёды, і нават у савецкія часы. Праўда, прэцэдэнт у гісторыі Беларусі быў. У 30-я гады мінулага стагоддзя за контррэвалюцыйную дзейнасць пазбавілі звання акадэмікаў так званых "нацдэмаў" — Ластоўскага, Лёсіка, Некрашэвіча, Дубаха, майго бацьку Гаўрылу Гарэцкага і іншых. КДБ тады прыдумаў справу "Саюза вызвалення Беларусі" і Пастановай Савета народных камісараў пазбавіў акадэмікаў высокага звання.

Але ў 70-я гады Андрэя Сахарава, які трапіў у няміласць савецкай улады і за палітычную дзейнасць быў сасланы з Масквы ў Горкі, не асмеліліся пазбавіць звання акадэміка. Адабраць званне маглі толькі рашэннем агульнага сходу Акадэміі навук СССР. Гэта было запісана ў статуце.

**— Беларускіх вучоных таксама папракнулі, што яны дарэмна атрымліваюць дзяржаўную надбаўку, а значыць, патрабаванні да іх працы павінны стаць больш жорсткімі...**

— Сёння даплата за званне кандыдата навук складае штомесяц тры базавыя велічыні, гэта 57 тысяч беларускіх рублёў. За доктара навук — шэсць базавых велічынь. Да нядаўняга часу за званне члена-карэспандэнта даплачвалі сем базавых велічынь, за акадэміка — дзесяць. Пасля з'явіўся ўказ Лукашэнкі, які трохі падвысіў даплату членам-карэспандэнтам і акадэмікам. Да 10 і 15 базавых велічынь адпаведна. Але цяпер члены-карэспандэнты і акадэмікі штогод павінны рабіць справаздачу аб сваёй дзейнасці.

Справаздача накіроўваецца ў Акадэмію навук, зацвярджаецца спачатку аддзяленнямі адпаведных напрамкаў навук, пасля — Прэзідыумам і ўрэшце адсылаецца ў Адміністрацыю прэзідэнта і Савет міністраў. Апошнім яе разглядае кіраўнік дзяржавы. Ён вырашае канчаткова, каму даць даплату, каму — не.

**— І было такое, што кагосьці пазбавілі даплаты?**

— Адразу пасля таго, як з'явілася такая пастанова, даплаты пазбавілі членаў-карэспандэнтаў Акадэміі навук Беларусі Генадзя Карпенку, Станіслава Шушкевіча, Валерыя Ціхіню і акадэміка Анатоля Міхайлава — дарадцу Шушкевіча.

**— А ўвогуле навошта акадэміку рабіць нейкія справаздачы аб зробленым?**

— Такая практыка існуе толькі ў нашай краіне. Як і мізэрная надбаўка, якой нас яшчэ і папракаюць. У Расіі акадэмік штомесяц атрымлівае за званне надбаўку ў памеры 500 долараў, член-карэспандэнт — 250 долараў.

Я размаўляў з акадэмікам з Францыі, ён казаў, што за гадавую надбаўку за званне ён можа купіць дом. І ўвогуле прэзідэнт і ўлады Францыі з такой павагай ставяцца да Інстытута Францыі, куды ўваходзяць некалькі розных акадэмій краіны, што ні адно важнае дзяржаўнае рашэнне не прымаюць без удзелу акадэмікаў...

Беларускія члены-карэспандэнты і акадэмікі штомесячную надбаўку атрымліваюць са спазненнем. У мінулым годзе Лукашэнка падпісаў паперы на атрыманне надбаўкі толькі ў жніўні. Сёлета адпаведнае распараджэнне кіраўніка дзяржавы да бухгалтэрыі Акадэміі навук яшчэ не дайшло.

Мы ўвесь час знаходзімся "на крючке": хачу — дам, хачу — не. А цяпер, калі паслухаць А.Лукашэнку, будзе яшчэ больш жорсткі падыход да вучоных. Але хто будзе ацэньваць нашу працу? На мой погляд, гэта робіцца толькі з той мэтай, каб мы былі больш паслухмяныя. І ўсе сапраўды моўчкі глытаюць гэтыя выказванні, бо трэба неяк выжываць.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ПРОТЕСТ

## Седьмой день голодают Валерий Фролов, Владимир Парфенович и Сергей Скребец

*Вчера, 8 июня, отказался от еды и заместитель председателя Партии БНФ* **Виктор Ивашкевич.** *Члены Политсовета Объединенной гражданской партии (ОГП)* **Марина Богданович, Геннадий Ананьев, Владимир Червоненко** *голодают с 4 июня,* **Юрий Истомин** *— с 5 июня.*

Напомним, что голодающие требуют внести изменения в Избирательный кодекс Беларуси, прекратить политические репрессии и изменить меру пресечения в отношении **Михаила Маринича,** который содержится в СИЗО КГБ, и просят депутатов не допустить конституционного переворота и выступить против референдума по продлению срока президентских полномочий А.Лукашенко.

*"Я призываю всех граждан, которым небезразлична судьба Беларуси, каждый день в 18 часов приходить к дому №4 на Казарменном переулке и поддерживать голодающих",* — сказал **Виктор Ивашкевич.**

Как уже сообщала "Народная воля", на балконе Фролова висел плакат с лозунгами **"Нет третьему сроку! За справедливые выборы! Свободу Мариничу!".** Вначале ответственные работники Ленинского РУВД предупредили голодающих, что *"по поводу висящего на балконе плаката участковым инспектором составлен протокол административного правонарушения по статье 445 часть 3, дело будет передано в суд".* А поздно вечером 7 июня голодающих навестили управдом и какой-то человек в штатском, судя по всему, из правоохранительных структур. Они потребовали снять плакат.

*"Мы отказались,* — рассказывает **Сергей Скребец.** — *Они сказали, что в таком случае сами снимут плакат при помощи пожарной лестницы. Буквально через пару минут они подогнали пожарную машину, которая, видимо, уже стояла наготове, и человек в каске начал снимать наш плакат. Несмотря на то, что он всячески закрывал плакатом свое лицо, нам все-таки удалось его сфотографировать".*

*"Мы повесили новый плакат и нарисовали еще пять резервных",* — говорит **Владимир Парфенович.**

Кстати, вчера Владимир Парфенович сообщил журналистам, что в Сочи во время пресс-конференции Путина и Лукашенко последнего спросили про голодовку депутатов.

*"Лукашенко сказал, что "сам разберется",* — сказал Парфенович, не ракрывая источник информации.

Кроме того, по словам Парфеновича, журналистам, присутствовавшим на пресс-конференции, запретили задавать Александру Григорьевичу вопросы о третьем сроке.

7 июня голодающих навестили лидеры предпринимательского движения Беларуси.

*"Принято решение провести 17 июня республиканскую забастовку предпринимателей против произвола властей,* — сказал один из лидеров предпринимательского движения **Анатолий Шумченко**. — *Хватит пресмыкаться, давайте отстоим свое будущее!"*

Законопроект о внесении изменений и дополнений в Избирательный кодекс, предложенный членами депутатской группы "Республика", включен в повестку дня сессии Палаты представителей, однако его рассмотрение запланировано лишь на ***22 июня***.

На момент подписания номера "Народной воли" в печать было известно, что группа депутатов намерена добиваться рассмотрения этого вопроса в ближайшее время.

*"Иначе до 22 июня голодающие могут просто не дотянуть",* — говорили отдельные депутаты.

Вчера во второй половине дня с голодающими встретился Чрезвычайный и Полномочный Посол США **Джордж Крол.**

Как сообщил **Игорь Маринич,** ему стало известно, что его отец, **Михаил Маринич,** также намерен присоединиться к голодовке.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

**На снимках:** *вот так расправлялись с плакатом голодающих, не зная, что у них есть немало резервных.*

СКАНДАЛ

## «Что за бандюганы окружили Дом правительства?»

Вчера на очередном пленарном заседании в Овальном зале депутаты Палаты представителей должны были рассмотреть 12 вопросов. Планировалось, что в повестку дня будет также включен и законопроект *"О внесении дополнений в Избирательный кодекс Республики Беларусь",* предложенный **Валерием Фроловым** ровно год назад. Однако журналистов независимых изданий, ***имеющих официальную аккредитацию и пропуск, заверенный в Службе безопасности президента,*** в парламент опять не пустили. Подходы к Дому правительства были плотно блокированы людьми в штатском с рациями в руках. Не представляясь и не предъявляя своих документов, они просили журналистов показать удостоверение.

*"Извините, но у нас приказ: не пускать никого, кроме конкретных корреспондентов из пяти государственных изданий,* — сказал один из них. — *У нас сегодня охранное мероприятие..."*

Стоит заметить, что документы проверяли не только у журналистов, но и у простых граждан, проходивших утром 8 июня мимо Дома правительства. Удостоверение требовали и у отдельных депутатов, которых люди в штатском, видимо, плохо знали в лицо.

В начале пленарного заседания депутат **Иван Пашкевич** поинтересовался у председателя Палаты представителей **Вадима Попова** и его заместителя **Владимира Коноплева,** на каком основании в Овальный зал не пускают журналистов и что за бандюганы окружили Дом правительства.

*"Палата представителей принимала постановление о порядке освещения сессии,* — сказал Иван Иванович. — *Меня интересует, на каком основании журналистов, имеющих официальную аккредитацию, не пускают в Овальный зал? Кто принимал подобное решение и почему не посоветовались с депутатами?"*

Пашкевич подчеркнул, что все это вызывает никому не нужный ажиотаж и что это позор.

Депутат также рассказал коллегам, что утром 8 июня он не смог припарковать свою машину рядом со зданием парламента: не разрешили эти самые люди в штатском. Хотя в это же время совершенно спокойно припарковал свою машину какой-то милиционер. Парадокс: ему почему-то можно, а депутату — нет!

*"В зале нет ни одного депутата, который не пускает журналистов",* — констатировал Попов.

*"А вдруг люди в штатском — это какие-то бандюганы?* — высказал предположение Пашкевич. — *Правда, некоторых я все же знаю в лицо и догадываюсь, какую службу они представляют".*

*"И какую же, Иван Иванович?"* — переспросил Владимир Коноплев.

*"Это сотрудники Службы безопасности президента",* — ответил Пашкевич.

**Вадим Попов** и **Владимир Коноплев** сказали, что лично они распоряжения не пускать журналистов в Овальный зал никому не давали. Попов даже персонально поручил некоторым депутатам Палаты представителей взять этот вопрос на контроль и разобраться, в чем дело.

*"Разберемся и наведем порядок",* — сказал Попов.

Кстати, если предположение Ивана Пашкевича верно, то рядом с Домом правительства сотрудников Службы безопасности президента было так много, что отдельные граждане даже удивленно переспрашивали: не ввели ли в Беларуси комендантский час?..

После Пашкевича слово взял депутат **Владимир Резников**. Он также отметил, что происходит грубейшее нарушение законодательства, и сказал, что "люди в штатском" создают напряженную обстановку.

*"Такого нет ни в одной стране!"* — сказал Резников. По словам Резникова, сотрудники спецслужб требуют документы, но в то же время не предъявляют их сами. На них нет никаких опознавательных знаков: ни специальной формы, ни значков.

Утром на заседании Совета палаты **Владимир Новосяд** спросил, почему на днях сотрудники Службы безопасности президента перед началом пленарного заседания попытались выставить из Овального зала журналиста "Народной воли". Новосяду сообщили, что некоторые журналисты якобы неадекватно, тенденциозно освещают события, которые происходят в парламенте. И сказали, что в самое ближайшее время будет рассмотрен вопрос о лишении аккредитации журналистов некоторых негосударственных изданий. Но, как прозвучало на Совете палаты, этот вопрос находится не в ведении Палаты представителей.

Странно получается: что это за парламент, если за него решают "люди в штатском"? Впрочем, это уже вопрос к избирателям...

За официальным комментарием "Народная воля" обратилась в Службу безопасности президента. Начальник Службы безопасности президента генерал-майор **Юрий Жадобин** и его подчиненные не сочли необходимым ответить на наши вопросы...

### Штрих к теме

***Статья 42 Закона о печати и других средствах массовой информации***

***Аккредитация корреспондентов***

*Редакции средств массовой информации имеют право на аккредитацию своих корреспондентов при государственных органах, организациях, учреждениях, органах общественных объединений.*

*Органы, организации, учреждения, при которых аккредитован корреспондент, обязаны сообщать ему о предстоящих заседаниях, совещаниях и других мероприятиях, обеспечивать стенограммами, протоколами и иными документами, создавать благоприятные условия для осуществления записи.*

*Аккредитованный корреспондент имеет право присутствовать на заседаниях, совещаниях и других мероприятиях, которые проводятся аккредитовавшими его органами, организациями, учреждениями, за исключением случаев, когда ими проводятся закрытые мероприятия.*

*Корреспондент может быть лишен аккредитации, если им либо редакцией нарушены установленные правила аккредитации либо распространены сведения, не соответствующие действительности, унижающие честь и достоинство организации, аккредитовавшей корреспондента.*

**Может, господам-товарищам Попову, Коноплеву и многим другим депутатам все-таки следует время от времени перечитывать законы?**

**Марина КОКТЫШ.**

## Народ Беларусі выказвае салідарнасць з «Народнай воляй»

Як мы ўжо паведамлялі, Народная кааліцыя **"5+"** і Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) вырашылі падтрымаць "Народную волю".

10 чэрвеня ў 18.00 на Кастрычніцай плошчы ў Мінску адбудзецца акцыя **"Ланцуг неабыякавых чытачоў".**

Запрашаюцца актывісты партый, грамадскіх арганізацый, чытачы і падпісчыкаў "Народнай волі", а таксама ўсе, каму неабыякавы лёс беларускіх незалежных газет, лёс дэмакратыі, прыйсці на Кастрычніцкую плошчу з газетай "Народная воля" ці з іншым незалежным беларускім выданнем.

***

**Ад рэдакцыі газеты "Народная воля".**

*Выказваем шчырую ўдзячнасць усім, хто падтрымлівае газету ў гэты цяжкі час.*







***Мікалай ЖДАНОК, прадпрымальнік, г. Мінск:***

### Не той подзвіг...

— Няхай тыя суддзі, якія прымаюць сёння рашэнні наконт спагнання з "Народнай волі" фантастычных штрафаў, не думаюць, што іх "подзвіг" будзе ўпісаны залатымі літарамі ў сучасную беларускую гісторыю. Усе прозвішчы гэтых суддзяў вядомыя, і калісьці ім прыйдзецца адказваць за свой сённяшні запал, які яны робяць не перад законам, а перад тым, хто ім дыктуе сваю волю. Лічу, што выпадак са справай "Народнай волі" стаў пераломным: сёння пра ніякую аб'ектыўнасць судоў, пра іх дбанне аб народзе гаварыць не прыходзіцца. Многія суддзі ў Беларусі, на жаль, служаць тым, хто ў "Мерседэсах", а не літары закона!

Хачу пажадаць супрацоўнікам маёй любімай газеты непахіснасці перад тымі, хто, стоячы на варце закона, сам парушае закон. Будзьце самімі сабой і не здраджвайце ідэалам дэмакратыі. Гісторыя вас не забудзе!

***Аляксандр ВАЛЧАНІН, фельчар «хуткай дапамогі», г. Жодзіна:***

### Ганебны вердыкт

— Суддзі, якія падпісваюць свой ганебны вердыкт "Народнай волі", забываюць пра адказнасць, — перш за ўсё перад сваёй сям'ёй, перад сваімі суседзямі, перад сваімі калегамі. Суд над газетай я лічу выкананнем заказу. Законам тут, як кажуць, і не пахне.

Дэмакратычныя сілы горада Жодзіна выказваюць пратэст і абураюцца такімі рашэннямі суда. Мы ведаем, што праз год-два перамены будуць. І мы звязваем гэтыя перамены менавіта з "Народнай воляй". Куды нам яшчэ звяртацца са сваімі праблемамі? Толькі ў "Народную волю!" Калі кінеце кліч, будзем збіраць грошы для газеты. Можа, многа не збяром, але па тысячы рублёў дадуць вельмі многія.

***Віктар З., супрацоўнік ДАІ:***

### Трэба выконваць Канстытуцыю!

— "Народную волю" набываю нерэгулярна. Але газету паважаю, па-першае, з-за таго, што яна памятае пра генерала Захаранку. Добры быў міністр і чалавек!

Пра тое, што "наехалі" на "Народную волю", чуў ад сябра. Такі крок я не падтрымліваю, таму што лічу: павінна існаваць шмат газет з рознымі думкамі і меркаваннямі. Гэтаксама як і не падтрымаю Лукашэнку, калі ён канчаткова вырашыць ісці яшчэ на адзін тэрмін прэзідэнцтва. Трэба выконваць Канстытуцыю!

## Только вместе мы сможем...

### *Заявление*

Фонд "За новую Беларусь" поддерживает голодовку трех депутатов Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь Владимира Парфеновича, Сергея Скребца, Валерия Фролова и примкнувших к ним активистов Объединенной гражданской партии. Фонд полностью разделяет требования голодающих: добиться от властей внесения изменений в Избирательный кодекс, прекратить делать из выборов фарс, освободить из неволи известного общественно-политического деятеля Михаила Маринича, а также не допустить очередного надругательства над белорусской Конституцией с целью продления президентских полномочий Александра Лукашенко.

Мы призываем всех людей доброй воли поддержать данные требования голодающих политиков и общественных деятелей.

Только вместе мы сможем положить конец беззаконию и произволу в нашей стране.

**Василий ЛЕОНОВ,**
**председатель попечительского совета фонда "За новую Беларусь";**
**Анатолий ПАВЛОВ,**
**председатель правления фонда "За новую Беларусь".**

## Мы стрымаем сваё слова!

*Не трывожцеся — "Народная воля" будзе выдавацца, нягледзячы на перашкоды, 250 нумароў, як мы і абяцалі, Вы сёлета атрымаеце.*

*Наша сіла — у вашай падтрымцы. Будзем разам і ў другой палове 2004 года.*

*Вас па-ранейшаму чакаюць у падпісных пунктах. Не спазніцеся. А каб аблегчыць вашу працу, мы ў чарговы раз друкуем абанементную картку. У любую вольную хвіліну запаўняеце — і на пошту альбо ў любы падпісны пункт "Белсаюздруку".*

**Вы — з «Народнай воляй», «Народная воля» — з Вамі!**

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету ______ (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў ______

на 2004 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

на газету ______ (індэкс выдання)

Народная Воля

| Кошт | падпіскі | ______ руб. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ______ руб. | | |

на 2004 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

Народная Воля

9 ЧЭРВЕНЯ 2004 г.

ПУЛЬС

## У Брэсце палявалі на ліс

У прыгарадзе Брэста сваё майстэрства язды на джыпах у экстрэмальных умовах змаглі паказаць аўтааматары Брэстчыны.

Як расказаў БелаПАН галоўны рэдактар абласной газеты "Заря" Адам Ліпскі, гэтыя спаборніцтвы — сумесны праект рэдакцыі, якая выдае інфармацыйны дадатак да сваёй газеты "Авто-Брест", і Брэсцкага райвыканкама. На ваенным палігоне 12 экіпажаў з Брэста, Баранавічаў і Кобрына прайшлі на хуткасць васьмікіламетровую трасу, на якой было шмат ухабін і калдобін.

Затым кожны вадзіцель павінен быў знайсці дзесяць макетаў звяроў, схаваных у лясным масіве. Да фінішу дайшлі сем аўтамабіляў. Лепшым быў прызнаны брэстаўчанін Сяргей Афанасенка на машыне "Таёта". Яму ўручаны прыз ад галоўнага спонсара спаборніцтваў, вядомай нямецкай фірмы па абслугоўванні аўтамабіляў "Лікві Молі".

Паводле слоў Адама Ліпскага, у вобласці шмат аматараў язды на аўтамабілі ў экстрэмальных умовах, таму ў рэгіёне ствараецца спецыяльны клуб, дзе будуць рыхтаваць вадзіцеляў для такіх спаборніцтваў.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Электрасмерць

Пракуратурай Камянецкага раёна (Брэсцкая вобласць) узбуджана крымінальная справа па факце гібелі трох чалавек.

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі, паблізу ад вёскі Кашчэнікі Камянецкага раёна на тэрыторыі кар'ера Брэсцкага ДБУ-15 пры правядзенні рамонтных работ на трансфарматарнай падстанцыі былі смяротна траўміраваны электрычным токам двое жыхароў горада Высокае, 1948 і 1956 гадоў нараджэння, і жыхар вёскі Пярковічы, 1965 года нараджэння.

Пачата следства.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## У Мінску адкрылася рэтраспектыва фільмаў Яна Труэля

Паказам кінакарціны "Белы як снег" у мінскім кінатэатры "Перамога" адкрылася рэтраспектыва фільмаў шведскага рэжысёра Яна Труэля.

Я.Труэль з'яўляецца адным з найвядомейшых кінарэжысёраў Швецыі, поруч з Інгмарам Бергманам і Бу Відэрбергам, адзначыў на адкрыцці паказу кіраўнік аддзялення ў Мінску Пасольства Швецыі ў Маскве Ян Шадэк. "Я рады, што з яго фільмамі змогуць пазнаёміцца і ў Беларусі", — падкрэсліў ён.

Паводле слоў Я.Шадэка, сёлетні кінафестываль з'яўляецца часткай Дзён культуры Швецыі, якія праходзяць у Мінску, Віцебску, Пінску і Лунінцы (Брэсцкая вобласць). Мерапрыемства задумана як прэзентацыя шырокага спектра шведскай культуры і ўключае знаёмства з сучаснай шведскай паэзіяй, творчасцю цудоўнай дзіцячай пісьменніцы Астрыд Ліндгрэн, а таксама з класікай шведскага кіно.

"Мне выпаў вялікі гонар быць запрошаным у Беларусь на паказ уласных фільмаў, — адзначыў Я.Труэль. — Я рады магчымасці паказаць тут свае работы, а таксама спадзяюся, што змагу пазнаёміцца з вашай краінай".

11—16 чэрвеня ў рамках Дзён культуры Швецыі рэтраспектыўны паказ фільмаў Я.Труэля пройдзе ў Віцебску.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Футбол. Чарговая замена

У сувязі з тым, што Усерасійская дзяржаўная тэлерадыёкампанія (УДТРК) не набыла правы на трансляцыю матчаў чэмпіянату Еўропы па футболе — 2004 на тэрыторыі Беларусі, падчас паказу гэтых матчаў будзе ажыццяўляцца адпаведная замена трансляцый кінапаказам і праграмамі канала СТБ. Як ужо паведамляў БелаПАН, усе гульні будуць паказаныя на канале БТ.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе тэлекампаніі СТБ, у выпадку парушэння гэтых умоў мясцовыя і кабельныя вяшчальнікі Беларусі, якія транслююць праграмы тэлеканала "Расія", будуць прыцягнуты да адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Беларусі.

Нагадаем, што з 1 студзеня 2004 года тэлекампанія СТБ валодае эксклюзіўным правам на трансляцыю і распаўсюджванне ў Беларусі праграм тэлеканала "Расія". Для рэалізацыі гэтага праекта рашэннем Рэспубліканскай камісіі па тэлебачанні і радыёвяшчанні ад 4 снежня 2003 года ЗАТ "Сталічнае тэлебачанне" на 5 гадоў дадзена права наземнага эфірнага тэлерадыёвяшчання для арганізацыі трансляцыі праграм тэлеканала "Расія" на тэрыторыі Беларусі.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

СПОРТ

## Максім Мірны прайграў

Максім Мірны прайграў у першым крузе турніру Асацыяцыі тэнісістаў-прафесіяналаў "Чэмпіянат Стэлы Артуа" з прызавым фондам 761.750 еўра. У панядзелак, 7 чэрвеня, ён саступіў французу Нікаля Маху, што займае 146-е месца ў чэмпіёнскай гонцы 2004 года, — 4:6, 7:6, 4:6.

У парным разрадзе беларус гэтым разам выступае ў дуэце з прадстаўніком Сербіі і Чарнагорыі Ненадам Зімонычам.

## Сакрушальнае паражэнне БАТЭ

Завяршыўся 8-ы тур чэмпіянату Беларусі па футболе ў вышэйшай лізе.

Салігорскі "Шахцёр" разграміў дома барысаўскі БАТЭ — 5:1 (Юрэвіч, 26, Новік, 36, Гранькоў, 38, 79, Бяспанскі, 84 — Страхановіч, 25).

Чэмпіён Беларусі "Гомель" сустракаўся ў родных сценах з мінскімі дынамаўцамі і выйграў з лікам 2:0 (Блізнюк, 51, Панкавец, 63).

Астатнія вынікі дня:

"Нёман" (Гродна) — "Тарпеда-СКА" (Мінск) — 2:2 (Мяцеліца, 8, Доля, 36 — Доўнар, 20, Эду, 40).

"Дынама" (Брэст) — "Нафтан" (Наваполацк) — 3:0 (Кандрашук, 15, Кавалюк, 23, Васілюк, 68).

"Звязда-ВА-БДУ" (Мінск) — "Лакаматыў" (Мінск) — 2:4 (Мастоўскі, 75, Лявончык, 83 — Пацко, 14, Крыпак, 49, Баранок, 65, Вадавозаў, 90).

Становішча каманд: "Тарпеда-СКА" — 19, "Дынама" (Мінск) — 16, "Тарпеда" (Жодзіна) — 16, "Славія" — 15, БАТЭ, "Дарыда" і "Гомель" — па 14, "Шахцёр" — 13, "Звязда" — 10, "Лакаматыў" — 9, "Днепр-Трансмаш", "Нёман" і "Дынама" (Брэст) — па 8, МТЗ-РІПо — 6, "Нафтан", "Белшына" — по 2.

Гульні 9-га тура пройдуць 11—12 чэрвеня.

**Алег РАЯВЕЦ.**

ЭТО ИНТЕРЕСНО

# «Боинг» для президента

**Эксклюзивный «Боинг-767-300», заказанный специально для Великого Туркменбаши, обойдется казне минимум в 130 миллионов долларов. Лайнер Лукашенко, можно предположить, будет стоить не меньше.**

История всемирно известного самолетостроительного концерна началась в далеком 1903 году. Уильям Боинг приехал в штат Вирджиния и открыл здесь свой деревообрабатывающий бизнес. Через несколько лет, в Сиэтле, он познакомился и подружился с лейтенантом флота Конрадом Вестервельтом. Оба приятеля обожали бридж и гонки на катерах. Но самой модной великосветской забавой того времени были полеты на аэропланах.

Впервые поднявшись в небо на маленьком самолете, лесопромышленник почувствовал настоящее озарение. Приземлившись, он сообщил другу, что знает, как можно усовершенствовать конструкцию самолета, и готов хоть сейчас начать работу.

Вскоре появился и "первенец" — самолет-амфибия, названный в честь родителей Уильяма Боинга. С этого времени, а точнее с 15 июля 1916 года, и берет свое начало история "Боинг Аэроплан Компани".

За без малого вековую историю коллективом "Боинга" было создано множество модификаций воздушных лайнеров, начиная от деревянных аэропланов, первых американских штурмовиков GA-X и истребителей Томас-Морс MB-3A, бороздивших небо в Первую мировую войну, до межконтинентальных ракет "Минитмен".

Работы над первым коммерческим реактивным лайнером начались в 1954 году. Через три года появился "Боинг-707" — так стали официально называться самолеты компании после того, как ее отец-основатель Уильям Боинг скончался 28 сентября 1956 года от сердечного приступа. Компания немедленно получила 151 заказ на новый лайнер. Затем были созданы 727-я и 737-я модели, и, наконец, в феврале 1969 года первый полет совершил знаменитый "Боинг-747". В 1995 году семейство "семисотых" пополнила новейшая модель — "Боинг-777".

Когда в начале декабря 2003 года подал в отставку глава "Боинга" Фил Кондит, это было неожиданно, но закономерно. Мало того, что бизнес шел с убытками, корпорацию обвинили и в неэтичных взаимоотношениях с американским государством — самым крупным клиентом "Боинга". Сначала стало известно, что "Боинг" якобы нечестным путем заполучил документы конкурента в борьбе за миллиардный военно-космический заказ — концерна "Локхид-Мартин". Потом в СМИ просочилась информация о "неэтичном поведении" финансового директора "Боинга" Майкла Сиэрса в ходе контактов с большим чином Военно-Воздушных сил. Контакты касались контракта на поставку ВВС 100 самолетов-заправщиков стоимостью около 20 млрд. долларов. В 2003 году "Боинг" впервые поставил меньше самолетов, чем его главный конкурент — "Аэробус", который на прошлогоднем авиашоу в Дубаи короновал себя титулом "ведущий мировой поставщик", с чем "Боинг", понятно, не согласился. Американцы критически отнеслись к новому европейскому суперсамолету А380 (555 пассажирских мест), называя его просчетом "Аэробуса", хотя спрос на него все растет. "Боинг" не верит в будущее сверхбольших самолетов и вместо этого готовится начать производство 250-местного "Дримлайнера".

Перед лицом серьезных внутренних проблем "Боинг" все чаще направляет взоры на зарубежные рынки; не последнее место занимает Россия, а также другие страны СНГ. Среди высокопоставленных клиентов "Боинга" засветились и несколько весьма одиозных фигур политического истеблишмента — Александр ЛУКАШЕНКО и Сапармурат НИЯЗОВ.

Историю создания специального самолета для Александра Лукашенко властям Беларуси удавалось скрывать в тайне почти три года. Столько времени прошло со времени заказа, пока на стапели в Сиэтле не встал готовый фюзеляж эксклюзивного "батькиного" сверхзвукового лайнера **"Boeing-737 Business Jet".**

В конце марта этого года в Минск приезжала группа американских дизайнеров, которые уточняли вкусы будущего пользователя: какого цвета постлать ковры, как украсить кресла, какие вкрутить лампочки и т.п. Но и без этого "Боинг", заказанный для Лукашенко, изначально отличается не только повышенными техническими характеристиками, но и уровнем комфортности. Все говорит о том, что самолет предназначен для неярдовой особы: полная шумоизоляция, приборы слежения за воздушными объектами, спецсвязь, сложная система обеспечения безопасности, специальное кондиционирование воздуха. Все это стоит огромных денег.

Не хочет отставать от белорусского "батьки" и туркменский диктатор, хотя никуда дальше Красноводска уже давно не летает. Коммерческий директор компании "Боинг" Альдо БАЗИЛЕ, побывавший недавно в царстве Туркменбаши, заявил в интервью туркменским СМИ: *"Туркменистан входит в число наиболее солидных наших клиентов..."* И то правда: "Боинг-717" стоит около 35 миллионов долларов, "Боинг-757" — 75—80, "Боинг-767" — под 100 миллионов. Эксклюзивный "Боинг-767-300", заказанный специально для Великого Туркменбаши, обойдется казне минимум в 130 миллионов долларов. Лайнер Лукашенко, можно предположить, будет стоить не меньше.

Новый "Боинг" Ниязов получит в 2005 году. Контракт на его покупку, оснащение и оформление внутреннего интерьера подписали Государственная национальная служба "Туркменховаеллары" имени Сапармурата Туркменбаши (Управление гражданской авиации Туркменистана) и американские компании "Боинг" и "Гор Дизайн Комплишн". Президентский самолет будет оплачен за счет средств валютного резерва Туркмении. Свой старый "Боинг-757", который был куплен несколько лет назад, "щедрый" Туркменбаши обещал переоборудовать под пассажирские перевозки и подарить "Туркменховаеллары".

Цена таких VIP-машин, какими являются "Боинги", заказанные для Лукашенко или Ниязова, никогда не бывает фиксированной — она напрямую зависит от запросов клиента. Так, например, арабские шейхи любят украшать салон золотом, а король Саудовской Аравии летает на 747-м, на борту которого якобы есть фонтан. Ниязову, наверное, оборудуют специальную библиотеку для разноязыкой "Рухнамы", установят в туалетной комнате золотой унитаз. Конечно же, не обойдутся и без фонтанов, а возможно, даже наполнят целое озеро.

"Боинг 747-200", закрепленный за президентом США Джорджем Бушем, называют "летающим Овальным кабинетом". Там предусмотрен президентский офис, переговорная комната, она же гостиная. Отдельные помещения предназначены для гостей, членов делегаций, охраны и журналистов. Президентские апартаменты состоят из гостиной, спальни для президента и первой леди, туалета, душа и кабинета. Предусмотрено помещение и для совещаний. На борту имеется небольшая "поликлиника", а его воздушный камбуз может одновременно сервировать еду на сто человек. Ниязову все это ни к чему. Туркменская "первая леди" на людях предпочитает не появляться, а Ахмед Чалык может поспать и сидя.

Королева Великобритании тоже летает на "Боинге-747". Как ни странно, до сих пор премьер-министру Соединенного Королевства не полагалось иметь собственный самолет. Тони Блэр и его предшественники вынуждены были брать его в долг у королевы или арендовать на стороне. Строительство специального лайнера для премьера обошлось бы британской казне в 130 млн. долларов и в свое время было признано нецелесообразным. Британские власти придумали довольно оригинальное решение этой проблемы: недавно для ВВС Великобритании было заказано 25 летающих танкеров, самолетов для дозаправки истребителей в воздухе. Теперь решено заказать еще один, который будет переделан в самолет премьера. Это не только сэкономит деньги налогоплательщиков, но и обеспечит безопасность первого лица в правительстве, ведь самолеты этого класса оборудуются специальными системами защиты от зенитных ракет.

Джон Траволта — самый известный любитель самолетов среди голливудских знаменитостей. В его личном авиапарке, насчитывающем пять машин, есть "Боинг-747", способный взять на борт свыше 400 пассажиров, и "Боинг-707-138В", на борту которого знаменитый актер собирается встретить свой 50-летний юбилей.

Губернатор Чукотки Роман Абрамович приобрел себе новый лайнер "Боинг-767-300ER", который обошелся ему более чем в 100 млн. долларов. Впрочем, оценить полную стоимость этого самолета пока невозможно, поскольку его отделка может в три раза превышать стоимость самого лайнера. В стандартной компановке такой самолет, как у Абрамовича, рассчитан на 360 пассажиров. Сколько мест в нем останется после установки бассейнов, душевых, спален, кабинетов, кинотеатров и прочего, пока неизвестно.

Разумеется, пока долетишь от Чукотки до Москвы, и поспать успеешь, и душ принять, и кино посмотреть не один раз. А в Лондон слетать на футбол — это уже почти что кругосветное путешествие получается, правда, в качестве пассажира. А вот Джон Траволта, например, его совершил, лично пилотируя родной "Боинг".

Короче говоря, все летают, все путешествуют. Непонятно только, зачем такое чудо техники Ниязову. Абрамовича ему все равно не догнать: у того уже и подводная лодка есть. К тому же "начальник Чукотки" свои прихоти оплачивает из собственного кармана (не будем гадать, откуда он у него такой толстый) и регулярно общается по этому вопросу с налоговыми органами не только России, но и Великобритании. Ниязов же свой карман бережет, копается в государственном, а про налоги вряд ли стоит говорить.

Куда же Ниязов на новом "Боинге" летать собрался? В Туркменистане только два аэропорта приспособлены для приема такого класса машин: Ашхабад и Мары. Аэропорт Красноводска хоть и считается одним из основных, техникой наземного обслуживания воздушных судов оборудован более чем скудно.

Взлетно-посадочную полосу в Мары построил наследный принц Абу-Даби шейх Халифа бин Заед Аль Нахайян. Он же оборудовал аэропорт разнообразными заправщиками, электрогенераторами, лестничными трапами и ассенизаторскими машинами. У него там неподалеку охотничьи угодия в долгосрочной аренде, куда престарелый принц летает регулярно, два раза в год, привозя с собой столько разного барахла и провианта, что тащить все это транзитом через Ашхабад нельзя — продукты испортятся. С Ниязовым в Ашхабаде шейх встречается на обратном пути. Причем даже не выходя из аэропорта. Туркменбаши сам со всех ног спешит к "брату Халифе" в глаза заглянуть да чего-нибудь "выцыганить". Перстенек какой-нибудь. Или новое оборудование для президентского курятника.

На дальние расстояния Ниязов давно уже летать не решается, а для обзора сельхозугодий, для того, чтобы зеленую ленточку какого-нибудь нового объекта перерезать, так для этого "Боинг" не нужен совсем. Путь короткий: вспотеть не успеешь, как уже на месте окажешься, не то что вздремнуть. К тому же у Ниязова еще и целый парк вертолетов имеется. Ниязов, прилетев куда-нибудь в туркменскую глубинку, далеко от "вертушки" не отходит, боится, наверное, чтобы на запчасти не растащили. Постоит на окраине пшеничного или хлопкового поля, послушает, как поют "молодые земледельцы", доллары раздаст и — домой!

Все реже пользуется он и другим своим любимым способом передвижения и бронированный "Мерседес" без особой надобности из гаража не выгоняет. Заседания Кабинета министров у него часто на даче проходят. Когда последний раз в Ашхабаде был, поди, и сам забыл. Правда, чтобы люди чего дурного не подумали, первое время регулярно в 7 часов утра кортеж по улицам проносился, мол, едет Ниязов на работу. А теперь и это бросили: чего даром бензин жечь?

Все куда-то летают. А Ниязову ни полететь, ни поехать некуда. Никто его в гости не зовет. Вот-вот в Тегеране саммит соберется, все прикаспийские президенты там будут: Путин, Алиев, Назарбаев, Хатами. Ниязова тоже ждут, хотя и без удовольствия. А раз так, то вполне возможно, что он в очередной раз дома останется, и, пока другие юридический статус Каспия определять будут, Туркменбаши будет в него плевать с балкона своей приморской резиденции. Как в песне поется: "Самолет — хорошо, "Мерседес" — ничего, а дома все же лучше!"

**Леонид КОЛОСОВ.**
**Информационно-аналитическое агентство "Маркетинг и консалтинг" (Россия).**

**На снимках:** *"Boeing-737 Business Jet" в полете; один из салонов самолета.*

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

*Кабинет председателя независимого профсоюза горняков **Николая НОВИКА** находится прямо в здании известного на весь мир ПО "Беларуськалий". Выписываю пропуск на первом этаже и захожу в офис профсоюзного лидера. Сразу же чуть не грохаюсь об пол. От удивления. На стене, за столом профбосса, красуется огромных размеров бело-красно-белый флаг.*

*— Только прошу вас, — любезно обращается ко мне Николай Николаевич, — чтобы флаг не попал в кадр, когда будете меня фотографировать. А то снова начальство будет возмущаться.*

*Разрешив, в конце концов, себя сфотографировать на фоне висящей на стене фотографии Василя Быкова, мой собеседник, отвечая на вопросы, рассказывает о некоторых проблемах крупнейшего в Беларуси производственного объединения.*

## *Николай НОВИК, председатель Независимого профсоюза горняков:*

# «Это поборы, которые фактически разоряют наше предприятие...»

**— Николай Николаевич, говорят, ваш профсоюз не слишком доволен недавним президентским декретом №18, который значительно уменьшил не только зарплаты на "Беларуськалии", но и пенсионные выплаты ветеранам предприятия...**

— Должен признать, что такой высокой средней зарплаты, как на "Беларуськалии", нет ни на одном предприятии Беларуси. Не хочу даже ее называть, чтоб не раздражать других граждан нашей страны. Но снижение пенсий и зарплат, вызванное вышеупомянутым декретом, вступившим в силу 1 января, вызвало недовольство в Солигорске. Причем потеряли не только работники, потеряло предприятие. "Беларуськалий" стабильно платил (и сейчас платит) налоги в государственную казну. Платили реальные люди, и эти деньги шли для пользы людей. Но виноват, хочу подчеркнуть, не сам декрет, а его интерпретация правительством.

**— Сколько "Беларуськалий" платил на социальные нужды в госбюджет раньше, а сколько платит сейчас по декрету?**

— Раньше предприятие платило 1.3% от фонда оплаты труда, сейчас, после принятия президентского декрета — 3.2%. В денежном выражении суммы таковы — если раньше это было 150 миллионов рублей, сейчас — где-то около 450 миллионов.

**— На что же идут примерно 300 миллионов, которые с вас стали брать дополнительно?**

— Забирает себе государственное предприятие "Белгосстрах". И это поборы, которые фактически разоряют предприятие. Наши пенсионеры в результате стали получать меньшие пенсии. "Белгосстрах" ведь платит им пенсии совсем по другим коэффициентам. Естественно, многие остались, как говорят, у разбитого корыта.

**— Но ведь пенсионеры "Беларуськалия" — чаще всего инвалиды по здоровью, — такова невеселая статистика. Получается, "Белгосстрах" наживается на больных людях...**

— Я бы не стал так резко высказываться. "Белгосстрах" просто перераспределяет деньги тем людям, которым государство не может оказать материальную помощь. Кроме того, "Белгосстрах" это та структура, которая должна себя обеспечивать сама, а значит, часть денег, которые достали из карманов солигорских пенсионеров, идет на обслуживание аппарата "Белгосстраха"...

**— Это правда, что по этому поводу вы написали письмо премьер-министру Сергею Сидорскому?**

— Правда. В письме Сидорскому мы пробуем объяснить, что наше горное предприятие неоднородно, его специфика носит совсем другой характер, нежели его представляет правительство. Непосредственно горняков у нас трудится около 50%, а остальные — это работники детских садов, ЖКХ, обслуживающий персонал, работники гостиничного комплекса, профилактория. Их работа не имеет никакого отношения к горному делу. Почему они должны платить в бюджет больше денег, чем положено? Всего у нас 120 профессий — среди них и лифтер, и вахтер, и санитарка, и официант, и продавец пива, и работник сельского хозяйства. При чем же тут тогда "горное предприятие" и общий максимальный коэффициент? Правительство применяет непонятный подход. Нельзя деньги от работника забрать и потом не вернуть. В письме премьер-министру мы просим уменьшить коэффициент выплат государству с 3.2% до прежних 1.3. Если к нам прислушаются, то тогда мы сможем восстановить солигорским пенсионерам прежние, более высокие пенсии.

**— А если к вам не прислушаются, иными способами собираетесь бороться за права пенсионеров "Беларуськалия"?**

— У нас стадия переговорного процесса еще не завершена.

**— А почему же так получилось, что сумма выплат государству увеличилась, а пенсионеры стали получать меньше?**

— Когда определяли размер страховых взносов (а перечень этих взносов определял премьер Сидорский), он учитывал только специфику горного предприятия и фактически подгреб всех под одну гребенку — заплати требуемую сумму в 3.2% и все тут.

**— Какие еще проблемы как независимому профсоюзу горняков вам приходится поднимать?**

— Чаще всего это проблемы заработной платы. Людей волнует прежде всего финансовый вопрос.

**— За последние года два насколько рост цен в Солигорске опережает рост зарплаты?**

— Примерный паритет сохраняется. В Солигорске в зарплатах мы стараемся догонять цены.

**— А какие-нибудь акции протеста проводите?**

— Все время проводим. В последний раз выступили в поддержку лидера Белорусского конгресса независимых профсоюзов Александра Ярошука, который сидел на Окрестина. Специально в Минск мы посылали делегацию, проводили пикет.

**— А какие у вашего профсоюза отношения с местными властями, с исполкомом?**

— Недавно у нас, в Солигорске, поменялась исполкомовская власть. Мы к ним обратились с инициативой переименовать одну из улиц Солигорска в улицу Василя Быкова. Получили отписку, что такой возможности у них якобы нет. По-моему, этим все сказано...

**Александр СИЛИЧ.**
**Фото автора.**

*Солигорск.*

А ЯК У СУСЕДЗЯЎ?

## У Польшчы амаль няма абмежавання на ўвоз тавараў для ўласнага карыстання

*"Народная воля" расказала пра новы парадак увозу-вывазу тавараў праз нашу мытную мяжу, вызначаны указам Аляксандра Лукашэнкі. Цяпер беларус з краін так званага далёкага замежжа, да якога адносяцца ўсе нашы заходнія суседзі, можа правезці толькі да пяці кілаграмаў прадуктаў, а таксама без пошліны — 1 літр алкагольных напояў, а не тры літры як было раней. А якія правілы ў суседніх краінах, ці ёсць там падобныя абмежаванні?*

Вось што расказаў Аляксей Дзікавіцкі па Радыё Свабода: *"Пасля далучэння Польшчы да Еўрапейскага Саюза абмежаванняў на ўвоз тавараў для ўласнага карыстання ў гэтую краіну з краін ЕС амаль няма. Паляк, які вяртаецца ў сваю краіну, напрыклад, з Нямеччыны ці іншай краіны Еўрасаюза, можа везці практычна любую колькасць тавараў для ўласнага карыстання. У прынцыпе, мытны кантроль на польска-нямецкай мяжы ўжо скасаваны. Выключэнне, гэта - алкаголь і цыгарэты. Аднак і для гэтых тавараў абмежаванні, хутчэй, сімвалічныя, бо наўрад ці нехта будзе везці вялікую колькасць алкаголю ці цыгарэт. Увозіць у Польшчу з краін Еўрасаюза дазваляецца 110 літраў віна, 110 літраў піва, 10 літраў моцных алкагольных напояў.*

*Пасля 1 мая паляк не павінен плаціць таксама падатак на дабаўленую вартасць за патрыманыя аўтамабілі, набытыя ў краінах Еўрасаюза. Дагэтуль застаецца, аднак, акцызны падатак, які складае ад 3% для амаль новых аўтамабіляў і нават 65%, калі машына старая. Паводле слоў спецыялістаў, патрыманыя аўтамабілі павінны ў хуткім часе патаннець".*

Далей паведамляецца, што пры ўвозе тавараў з краін — усходніх суседзяў Польшчы — сітуацыя больш складаная. Беларус, які едзе ў Польшчу, можа раз у месяц свабодна ўвезці ў гэтую краіну 1 літр моцнага алкаголю. Апрача гэтага, адна асоба можа везці розныя тавары, незалежна ад таго, колькі яны важаць, на суму не больш за 175 еўра. За ўсё, што каштуе больш, трэба плаціць пошліну. Гэтыя абмежаванні не тычацца тых, хто жыве ў Польшчы і хто едзе праз гэтую краіну транзітам.

Што да прадуктаў, дык на памежным пераходзе ў Кузьніцы Беластоцкай гэта залежыць ад таго, куды едзе канкрэтная асоба. Паводле правіл, падарожнік можа мець столькі прадуктаў, каб яму хапіла да канца падарожжа. А ў кожнага, як вядома, розныя патрэбы. Нават дасведчаныя польскія мытнікі не памятаюць выпадкаў, каб у апошнія гады беларусы везлі ў Польшчу прадукты, тэхніку ці нешта іншае. Супрацоўніца мытні зазначыла, што "не помніць, каб беларус увозіў у Польшчу, скажам, тэлевізар, пральны парашок ці прадукты. Вязуць цяпер гэта ўсё ад нас у Беларусь".

